# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№4 (252)

травень 2023

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## Алена Анісім: Перанесла “суткі” спакойна. Без нерваў, без эмоцый, без нічога…

Экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў, былая старшыня ліквідаванага Таварыства беларускай мовы і сябра Рады “Бацькаўшчыны”, якая нядаўна выйшла з Акрэсціна пасля адбыцця 12 сутак адміністрацыйнага пакарання, распавяла пра сваё затрыманне, знаходжанне на “сутках” і звальненне з Акадэміі навук.

Старонка 2





# БОЛЬШ ЧЫМ ПРОСТА МОВА

Захаванне беларускіх школ на Падляшшы можа стаць досведам для рэформы адукацыі ў Беларусі.

Паводле падлікаў экспертаў, Польшча стала краінай, у якую ўцёкі беларусаў з-за палітычнага пераследу на радзіме і суўдзелу Беларусі ў вайне з Украінай сталі найбольш масавымі. Тым не менш на Падляшшы фактычна зачыняюць дзве беларускія школы. Было б зразумела, каб яны зачыняліся праз недахоп вучняў, якія жадалі б навучацца беларускай мове. Але такіх вучняў цяпер багата. Што ж адбываецца?

Беларусы Падляшша стварылі петыцыю, у якой просяць не дапусціць зменаў у статут школ з навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы і Бельску-Падляскім. Пра сітуацыю распавядае Зміцер Косцін – журналіст, актывіст і бацька дзяцей, якія вучаць беларускую мову ў Польшчы. І, на яго думку, захаванне абавязковага вывучэння беларускай мовы ў гэтых школах патэнцыйна мае больш важнае значэнне, чым падаецца сёння.

**– Зміцер, у чым праблема з беларускімі навучальнымі ўстановамі на Падляшшы? Чаму яна ўзнікла?**

– Праблема ўзнікла ў сувязі з тым, што органы адукацыі Польшчы прымушаюць школы з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляскім і Гайнаўцы, каб яны са сваіх статутаў выкінулі абавязак навучання ўсіх вучняў беларускай мове.

Каментар у гэтай сітуацыі быў з боку Куратарыуму асветы – гэта такі польскі адпаведнік АблАНА. Згодна з ім, існуе распараджэнне 2017 года, якое дазваляе кожны год у верасні школьнікам вызначацца з дадатковымі заняткамі. Яны хочуць, каб гэтае распараджэнне пашыралася і на гэтыя дзве спецыяльныя навучальныя ўстановы. Цяпер ліцэі з дадатковай беларускай мовай – гэта спецыяльныя школы, такія як спартовыя, музычныя, двухмоўныя школы (польская і англійская, напрыклад), дзе частка праграмы навучання з’яўляецца абавязковай для ўсіх. І калі не здаеш прадметы, абавязковыя ў гэтай школе, то тады проста гэтую школу не заканчваеш.

Тут вялізная пагроза ў тым, што калі пройдзе варыянт, які прапануе Куратарыум асветы, то гэта дасць магчымасць людзям проста адмаўляцца ад навучання беларускай мове, якая цяпер для вучняў абавязковая.

Тут не трэба шукаць нейкай малой свядомасці людзей. Свядомасць свядомасцю, але ёсць адметнасць, што бацькі проста ахвотна выпісваюць дзяцей з дадатковых прадметаў, калі ёсць такая магчымасць. У прынцыпе, калі б была магчымасць выпісаць дзяцей з матэматыкі – то іх бы выпісалі і з матэматыкі, каб не здаваць па ёй абавязковы іспыт.

Ну і, вядома, у сувязі з гэтым узнікае пытанне навучання беларускай мове для неграмадзянаў Польшчы. Але гэта крыху іншае пытанне, крыху іншая павестка.

Працяг на старонцы 3

мова

# Алена Анісім: ПЕРАНЕСЛА “СУТКІ” СПАКОЙНА. БЕЗ НЕРВАЎ, БЕЗ ЭМОЦЫЙ, БЕЗ НІЧОГА…



Экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў, былая старшыня ліквідаванага Таварыства беларускай мовы і сябра Рады “Бацькаўшчыны”, якая нядаўна выйшла з Акрэсціна пасля адбыцця 12 сутак адміністрацыйнага пакарання, распавяла пра сваё затрыманне, знаходжанне на “сутках” і звальненне з Акадэміі навук.

Нагадаем, што былую дэпутатку Палаты прадстаўнікоў і кіраўніцу ліквідаванага ў лістападзе 2021 года Таварыства беларускай мовы Алену Анісім затрымалі на яе працоўным месцы – у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук. Пасля ніякіх звестак пра яе не было.

Як высветлілася, паводле версіі міліцыянераў, Анісім “агрэсіўна сябе паводзіла ў РАУС”, за што і была асуджаная да адміністрацыйнага арышту на 12 сутак. За за гэты час з Акадэміі навук яе звольнілі.

Зараз Алена Анісім аднаўляецца пасля “сутак” на сваім лецішчы, але не адмовіла даць эксклюзіўнае інтэрв’ю…

– 12 сутак арышту ў мяне скончыліся 29 мая ў 14.00, – распавядае Алена Анісім. – У гэты дзень я прыехала дахаты, а ў наступныя дні разбіралася з тым, што мяне звольнілі з работы, трэба было забіраць пастанову суда, аплочваць усе паслугі, якія мне, так бы мовіць, аказалі на Акрэсціна. Трэба было таксама з’ездзіць і забраць тэлефон.

Акрамя ўсяго іншага, я яшчэ схадзіла ў паліклініку і выпісала тыя лекі, якія мне былі неабходныя, бо яны скончыліся.

А ўчора дзесьці ў абед адправілася ў вёску, каб падыхаць свежым паветрам, аднавіцца ды прывесці гаспадарку ў парадак.

**– І як гаспадарка?**

– Безумоўна, відовішча было, як кажуць, вартае жалю, бо тут дажджу ні грамулькі не ўпала. Усё проста сохне, гарыць, трава таксама не надта расце.

Але самае крыўднае, што не растуць трускаўкі. Усё павысыхала, а пакуль мяне не было, то не было каму і паліваць. І нават кветкі не растуць, таму ў мяне з гэтай нагоды вялікае засмучэнне.

Праўда, хлопцы мне дапамаглі – скасілі траву на ўчастку, зрабілі невялічкі парнічок і пасадзілі памідоры, перцы. Бурачкі павылазілі, бульба падымаецца. Натуральна, усё прыпазнілася, але што зробіш? Паўмесяца выпала толькі так.

Сёння ў нас рэзка пахаладала, і я з-за перападаў тэмператур нешта падхапіла. Ды і пасля “сутак” не да канца ачуняла. Трохі кашаль застаецца, нават было, што голас страціла. Таму на лецішчы вырашыла нават печку прапаліць, каб ноччу было камфортна спаць.

**– Калі вы даведаліся, што вас звольнілі з працы?**

– У мяне яшчэ раней было прадчуванне, што працоўныя адносіны з Інстытутам могуць у хуткім часе скончыцца, а калі ўжо прыехала міліцыя і забрала з працы, то стала зразумела, што ў інстытуце мяне ўжо ніхто трымаць не будзе.

**– Засталася крыўда на дырэктара Інстытута мовазнаўства?**

– Ні ў якім разе! Гэта ні ад каго і ні ад чаго не залежыць. Відаць, была пэўная ўстаноўка, па якой людзей затрымліваюць. Ні дырэктар, ні хто іншы гэтаму не перашкодзяць. Ёсць рэчы, якія адбываюцца незалежна ад дырэктара ўстановы. Ён нават сам можа не разумець і не здагадвацца пра тое, як усё адбываецца.

Але звольнілі мяне і на самай справе па нейкіх надуманых прычынах, хаця пры гэтым дадалі: “Не маглі інакш. Занадта рэзананснае затрыманне было”.

**– Будзеце шукаць нейкія варыянты з працаўладкаваннем?**

– Летам я не збіраюся кудысьці працаўладкоўвацца, бо трэба крыху ачуняць, акрыяць, адпачыць. І трэба ўсё асэнсаваць. А з верасня, магчыма, ужо буду шукаць нейкую падпрацоўку. Нейкія мінімальныя грашовыя сродкі ў выглядзе пенсіі я ўсётакі маю, таму летам магу сабе дазволіць не працаваць. А што будзе далей? Жыццё пакажа. Калі ўсё будзе нармальна, то паспрабую знайсці новую работу. Зразумела, што ў дзяржаўную ўстанову шлях мне ўжо заказаны, таму буду нешта іншае шукаць.

**– Як вы перанеслі 12 сутак на Акрэсціна?**

– Спакойна. Без нерваў, без эмоцый, без нічога.

**– Для вас было нечаканасцю, калі за вамі міліцыя прыйшла на працу?**

– Абсалютна! Хаця стала зразумела, што прычына тут абсалютна іншая, чым рэпосты нейкіх забароненых рэсурсаў. На самай справе ўсё інакш. Магчыма, пазней патлумачу з гэтай нагоды падрабязней.

**– Увесь час, пакуль вы знаходзіліся на “сутках”, грамадскасць не ведала, што з вамі, як ваша здароўе, дзе вы знаходзіцеся. А дзеці мелі нейкую інфармацыю?**

– На працы ведалі, што мяне затрымалі, таму маім блізкім пра гэта, натуральна, паведамілі. Пазней дзеці спрабавалі высветліць, дзе я знаходжуся, але зрабіць гэта ім удалося не адразу. Некаторыя журналісты тэлефанавалі сынам, каб тыя нешта паведамілі пра мяне, але яны сказалі так: “Без згоды мамы нічога казаць не будзем”. І, па вялікім рахунку, яны зрабілі правільна.

**– Чым дзеці частавалі маму, калі вы выйшлі на волю?**

– Для дзяцей я як нечакана знікла, так жа нечакана і з’явілася, таму ніхто адмыслова не рыхтаваўся. Вечарам звычайна сабраліся, паелі звычайнай бульбы і катлет, паспрабавалі салаты і хатняе віно. Усё было проста, але вельмі душэўна.

Алесь Святланіч, nv-online.info

мова

# БОЛЬШ ЧЫМ ПРОСТА МОВА

Працяг са старонкі 1

**– Што можна зрабіць, каб захаваць вывучэнне беларускай мовы?**

– Апроч таго, што створаная петыцыя за захаванне беларускай мовы, быў зварот Святланы Ціханоўскай да міністра адукацыі Польшчы, адбылася сустрэча дырэктараў школ і прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы з супрацоўнікамі канцылярыі прэзідэнта Польшчы. Пакуль афіцыйнай інфармацыі пра гэтую сустрэчу няма, але выглядае на тое, што сустрэча была даволі канструктыўнай. Пасыл, які транслюецца на гэтых перамовах – што навучанне беларускай мове, захаванне школ з дадатковым навучаннем беларускай мове – гэта ніякае не падтрымка так званага "рускага міру", як думаюць некаторыя польскія палітыкі, а наадварот, "прышчэпка" ў супрацьстаянні з "рускім мірам", які таксама мае ўплыў на Беласточчыне сярод іншага праз праваслаўную царкву.

**– Ці сапраўды нехта лічыць, што беларуская мова з'яўляецца правадніком "рускага міру"? Няўжо такое моцнае неразуменне сітуацыі на Беласточчыне?**

– Тут, вядома, трэба сказаць, што на гэтае неразуменне моцна ўплываюць гістарычныя крыўды і гістарычныя непаразуменні, якія шмат дзесяцігоддзяў прысутнічаюць на Падляшшы паміж беларускай нацыянальнай меншасцю і палякамі, якія тут жывуць. Некаторыя палякі і беларусы па-рознаму глядзяць на сітуацыю, звязаную з пацыфікацыяй беларускіх вёсак пасля Другой сусветнай вайны. Не таямніцай з'яўляецца і тое, што камуністычная ўлада пасля Другой сусветнай дала беларускай нацыянальнай меншасці даволі вялікі сацыяльны аванс, чаго беларусы, напрыклад, не мелі ў міжваеннай Польшчы, – калі людзі праз сваё паходжанне не маглі займацца пэўнай дзейнасцю, займаць нейкія пасады.

І, вядома, у Польшчы агульна ўспрымаецца савецкі рэжым як акупацыя, і некаторыя людзі проста абвінавачваюць беларусаў у нейкай калабарацыі з камуністамі. Гэта, вядома, няпраўда, бо беларусы не менш цярпелі ад камуністычнай улады Польшчы, чым палякі.

**– Шмат беларусаў ураталіся ад рэжыму Лукашэнкі ў Польшчы, і, напэўна, жадалі б, каб іх дзеці вывучалі беларускую мову. Але, наколькі вядома, беларускую мову могуць вучыць толькі дзеці грамадзян Польшчы. Чаму існуе такі падзел? Ці няма тут нейкай дыскрымінацыі?**

– Тут трэба сказаць, што падыход Польшчы па навучанні дзяцей мове нацыянальных меншасцей даволі



Зміцер Косцін.

розніцца ад падыходаў, якія ёсць у Беларусі. У Беларусі нацыянальнымі меншасцямі лічацца і башкіры, і грузіны, і азербайджанцы, і іншыя. А ў Польшчы нацыянальнымі меншасцямі лічацца толькі традыцыйныя нацыянальныя меншасці, якія згаданыя ў законе пра нацыянальныя меншасці.

Закон пра нацыянальныя меншасці, які дазваляе вывучаць беларускую мову як родную, накіраваны перадусім на тое, каб падтрымаць грамадзян Польшчы іншай нацыянальнасці.

З аднаго боку, я б не казаў пра дыскрымінацыю, бо польская дзяржава падтрымлівае сваіх грамадзян. Добра было б, каб беларуская дзяржава падтрымлівала польскае навучанне, літоўскае навучанне на тэрыторыі Беларусі, ці навучанне на іншых мовах традыцыйных нацыянальных меншасцей.

І тут трэба разумець, што акрамя акрэсленага ў заканадаўстве права на навучанне беларускай мове дзяржава таксама фінансава заахвочвае, каб не было праблемаў з адкрыццём такіх класаў і навучаннем. То-бок дзяржава са сваіх коштаў пералівае дадатковыя субвенцыі на вучняў, якія дадаткова вывучаюць мову нацыянальных меншасцей.

І мне падаецца, што вось тут узнікае другі бок – адно вялікае непаразуменне. Напрыклад, у Беластоку ёсць школа № 4, дзе вывучаюць беларускую мову дзеці з беларускай нацыянальнай меншасці – гэта значыць, каля хаця б адзін з бацькоў з'яўляецца грамадзянінам Польшчы. І ў гэты ж час у гэтай жа школе, у гэтым жа класе ёсць дзеці грамадзян Беларусі, якія не могуць хадзіць на гэтыя заняткі.

Гарадскія чыноўнікі ў сістэме адукацыі на месцы, якія кіруюць школамі, тлумачаць, што не могуць адправіць дзяцей грамадзян Беларусі на заняткі беларускай мовай у гэтыя класы, таму што такім чынам гэта будзе крыху нямэтавым выкарыстаннем сродкаў субвенцый.

Шмат хто думае, што па вялікім рахунку вырашыць пытанне навучання дзяцей беларускай мове ў тых месцах, дзе навучаюцца мове дзеці беларускай нацыянальнай меншасці, вельмі проста. Кожнае мясцовае самакіраванне магло б вырашыць гэтае пытанне самастойна. Але мясцовае самакіраванне кажа, што не мае грошай, што яны не хочуць парушаць заканадаўства, і такім чынам проста адпіхваюць пытанне.

Справа навучання дзяцей грамадзян Беларусі, уцекачоў, у Беластоку з'яўлялася яшчэ летась, перад інтэнсіўнай атакай Расіі пры падтрымцы беларускага рэжыму на Украіну. Тады таксама была петыцыя ў абарону дзіцячага садка, і сярод іншага ўздымалася пытанне навучання беларускай мове для грамадзян Беларусі. Ад таго моманту ў прынцыпе нічога не змянілася. Дзеці грамадзян Беларусі, якія ходзяць у адзін клас з дзецьмі-беларусамі грамадзян Польшчы, не могуць хадзіць на заняткі беларускай мовы.

Падаецца, сітуацыя даволі патавая, якую пры добрай волі можна было б адносна хутка вырашыць.

Зазначу, што я кажу менавіта пра Беласток, таму што ў Варшаве, ці ў Кракаве, ці ў Гданьску зусім іншая сітуацыя. Там грамадзяне Польшчы мусілі б стварыць такія класы з вывучэннем беларускай мовы, і да гэтага маглі б далучыцца грамадзяне Беларусі.

**– Ці можна неяк паўплываць на польскіх чыноўнікаў праявіць добрую волю, пра якую вы кажаце? Ці, можа, стварыць альтэрнатыўныя курсы беларускай мовы, калі гэта цікава людзям?**

– Так, ствараюцца альтэрнатыўныя курсы, такая магчымасць навучання ёсць і ў Варшаве, і ў Беластоку. У Варшаве дзейнічаюць дзве школы ў гібрыдным фармаце афлайн і анлайн, дзе ёсць заняткі па-беларуску. У нас у Беластоку дзейнічаюць штотыднёвыя заняткі для дзетак у розным веку па беларускай мове, гісторыі, геаграфіі – такія сустрэчы, дзе дзеці маюць магчымасць камунікаваць па-беларуску. Я сам быў у свой час ініцыятарам такіх сустрэч – можа, не адукацыйных, а больш інтэграцыйных, мы мелі нядзельную школу беларускіх традыцый, дзе дзеці сустракаліся, нешта рабілі разам, вучылі песні, прадстаўленні рыхтавалі…

То-бок на месцах такая практыка ёсць, і людзі даволі ахвотна самаарганізуюцца. Хаця мушу прызнацца, што колькасць ахвотных не заўсёды вялікая.

А наконт уплыву на польскіх чыноўнікаў… Я думаю, што тут вялікая роля перадусім беларускіх палітыкаў, прадстаўнікоў дэмакратычных сіл. Ведаю, што размовы прадстаўнікоў Офіса Святланы Ціханоўскай з міністэрствам адукацыі былі ўжо не раз. Думаю таксама, што трэба выходзіць на ўзровень мясцовага самакіравання, дзе спрабаваць нейкім чынам сутыкацца, размаўляць пра гэта.

Іншы варыянт, які, мне падаецца, быў бы такой развязкай – гэта магчымасць шукаць міжнароднае фінансаванне для такіх заняткаў.

Канечне, саматужна, салідарна беларусы могуць шмат што, і даволі доўга. Але калі мы рыхтуемся да новай Беларусі, то варта падумаць, што такія школкі, якія б ствараліся, мелі б падобныя праграмы, могуць стаць прыкладам для змены сістэмы адукацыі ў Беларусі пазней.

І тут думаю, што варта было б звярнуць палітыкам вялікую ўвагу на пытанне адукацыі. Мы ўсе бачым, што ў Беларусі робіцца ў школах і іншых навучальных установах, дзе замбаванне і прапаганда дзяцей адбываюцца даволі моцныя. Мне здаецца, што адукацыя – гэта наша будучыня, і мы павінны думаць пра гэта ўжо сёння.

Аліна Бялова, budzma.org

мова

# Святлана Алексіевіч: ГЭТА НЕ ПРОСТА ВЫДАВЕЦТВА, МЫ СТВАРАЕМ СВОЙ ЖАНОЧЫ СУСВЕТ

Святлана Алексіевіч распавяла пра сваё выдавецтва на кніжным кірмашы ў Ляйпцыгу.




З 27 па 30 красавіка ў нямецкім Лейпцыгу праходзіў другі па велічыні кніжны кірмаш Германіі – Leipziger Buchmesse. Сярод чатырох дзясяткаў краін, прадстаўленых на выставе, ёсць і Беларусь. У кірмашы бралі ўдзел Вольга Гапеева, Дзмітрый Строцаў, Саша Філіпенка, Зміцер Вішнёў, Юлія Цімафеева і Альгерд Бахарэвіч, Святлана Курс, Святлана Алексіевіч. Апошняя разам з Аленай Казловай прэзентавала сваё жаночае выдавецтва “Пфляўмбаўм”.

Як распавяла нобелеўская лаурэатка, яна ўсё жыццё сутыкался з чэргамі, спісамі на публікацыю, у якіх былі пераважна мужчыны. Таму пасля атрымання нобелеўскай прэміі яна адразу ведала, на што патраціць ягоную грашовую частку: інтэлектуальны клуб і выдавецтва, якое будзе друкаваць жанчын.

– Напачатку, калі я толькі агучыла гэтую ідэю, мне казалі, што яна недарэчная, што не знойдзецца столькі жанчын-пісьменніц. Думаю, зараз тыя людзі зразумелі, што памыляліся, – распавяла Алексіевіч. – Гэта не проста выдавецтва, мы ствараем свой жаночы сусвет, сусвет аднадумцаў. Калі я глядзела на нашыя маршы ў 2020 годзе, на сотні, тысячы жанчын ў белым, з кветкамі, я думала, што гэта новы жаночы свет, што на роўных уваходзіць у свет сучасны. Без яго адзінокі мужчынскі шлях – гэта шлях самазабойства. Мы гэта бачым на прыкладзе вайны ва Украіне, дзе мы бачым свет у руках старых мужчын, старых уяўленняў. Калі так будзе працягвацца, гэта самазабойства. Я любуюся ўсімі нашымі аўтаркамі – Юляй Арцёмавай, Вікай Біран, Евай Вежнавец. Прыходзяць маладыя жанчыны, якія кажуць: свет без нас немагчымы. Паўтару: мы, жанчыны, ёсць, і свет без нас немагчымы, ён не выжыве без нас.

Галоўная рэдактарка выдавецтва Алена Казлова расказала пра гісторыю яго ўзнікнення і сэнс назвы. Паводле слоў Алены, яны з Алексіевіч аднойчы сустрэліся ў аэрапорце на шляху да кніжнага кірмашу ў Варшаве. Алена падышла да набелянткі павітацца, а тая прапанавала разам зрабіць жаночае выдавецтва. Казлова пагадзілася і атрымала першае заданне як галоўная рэдактарка: прыдумаць назву і канцэпцыю выдавецтва.

– Мне адразу прыйшла назва “Пфляўмбаўм”, – распавяла Алена. – Яна у гонар беларускай пісьменніцы Яугеніі Пфляўмбаўм, бацька яе быў немцам, спецыялістам-чыгуначнікам, якога запрасілі ў Беларусь, таму ў яе такое нязвыклае прозвішча. У Пфляўмбаўм вельмі цікавая гісторыя, яна была вельмі таленавітая, дэбютавала у 1928 годзе кнігай паэзіі, а потым замаўчала амаль на ўсе жыццё. З ёй здарылася частая гісторыя, якая бывае з таленавітымі жанчынамі: яна выйшла замуж. Муж яе, Максім Лужанін – класік беларускай літаратуры, яго і зараз друкуюць. Ён публікаваў у тым ліку яе пераклады, пад сваім імем, а яна нічога не публікавала. І я хацела паказаць, што мы не з’явіліся на пустым месцы, у нас ёсць карані, да нас былі жанчыны-творцы, якія спрабавалі праўдзіцца ў літаратуры. У іх не атрымалася, але яны сталі тым грунтам, на якім мы ўзышлі. Гэта імя – вельмі цяжкае па вымаўленню і напісанню для беларусаў, а для жанчын звыкла быць зручнай і лёгкай. І я падумала, што хачу, каб гэта была цяжкая назва, каб людзі прыкладалі высілкі, каб яе вымавіць ці напісаць. Бо вы можаце рабіць высілкі дзеля жанчын. Калі ласка, зрабіце гэта. І яшчэ я спадзявалася, што стварэнне выдавецтва набелянткай прыцягне ўвагу да Яўгеніі Пфляўмбаўм, яна паўстанне з нябыту, як карабель, падняты з дня акіяна. Людзі пабачаць, які гэты прыгожы карабель і ён адправіцца ў сваё новае плаванне.




Самой Алексіевіч, дарэчы, назва спачатку не спадабалася. Але ж яна вырашыла даверыцца інтуіцыі сваёй галоўнай рэдактаркі. І гэта спрацавала.

Трэцяй удзельніцай сустрэчы была адна з аўтарак “Пфляўмбаўма”, можна нават сказаць, што ягоны твар, пісьменніца Святлана Курс, якая піша пад псеўданімам Ева Вежнавец.

– Многія беларусы, як у Беларусі, так і за мяжой, знаходзяцца ў стане адчаю, – казала Алена Казлова. – Ім адчайна патрэбна нешта, чым яны могуць ганарыцца. І гэта робяць для іх і для сябе нашы аўтаркі. Я бачу, як палюбілі Еву Вежнавец, бо яна прынесла ў цяжкія часы штосьці вельмі якаснае, высокага ўзроўню, яе кнігі напісаныя вельмі багатай, жывой мовай, якую зараз цяжка знайсці. Для беларусаў, якія павярнуліся да свайго, зараз шукаюць нешта сваё, для іх гэта як крыніца з вадой, якой можна напіцца. Вежнавец піша лёгка і цікава, і пры гэтым пра вельмі сур’ёзныя рэчы.

Прысутныя мелі магчымасць пераканацца ў вышэйсказаным асабіста: пасля заканчэння прэзентацыі выдавецтва наступная імпрэза была прысвечана чытанню нямецкага перакладу кнігі Евы Вежнавец “Па што ідзеш, воўча?”.

**Яўген Ерчак, budzma.org, фота аўтара**

МОВА

# ШТО АДБЫВАЕЦЦА НА ГЭТЫХ “КРЫВАВЫХ ЗЕМЛЯХ” – У БЕЛАРУСІ І ВА УКРАІНЕ

У лонданскім выдавецтве “Скарына” выходзіць новая кніга паэта і перакладчыка Алеся Плоткі. Крыху інтэрнацыянальная і прысвечаная падзеям у Беларусі і Украіне 2020 і 2022 гадоў. Яна мае назву “Bloodlands 20/22. Belarus. Ukraine”.




Па факце, распавёў Алесь Плотка “Будзьме!”, гэта нават не кніга, а дыхтоўны фотаальбом з вершамі, створаны Алесем Плоткам і фатографамі Алесем Пілецкім і Станіславам Крупажам. У фокусе аўтараў – Беларусь і Украіна, іх пакутлівa розны шлях дэкаланізацыі. Акрамя аўтарскіх твораў кніга зміяшчае пераклады на беларускую мову твораў украінскіх літаратараў (Іван Сэмесюк, Таня Радзівонава, Вячаслаў Лявіцкі, Лэсык Панасюк, Angie Siveria).

– Ёсць такая канцэпцыя ў вядомага гісторыка Цімаці Снайдэра, “крывавыя землі”, – тлумачыць назву Алесь Плотка. – Снайдэр яе вывеў, калі даследаваў палітычны, культурны і ідэалагічны кантэкст, у адпаведнасці з якім рэжымы Сталіна і Гітлера здзейснілі масавае забойства прыблізна 14 мільёнаў мірных людзей паміж 1933 і 1945 гадамі.

У мяне проста засяроджаны фокус на тым, што адбываецца на гэтых “крывавых землях”, а канкрэтна з 2020 года ў Беларусі і з 2022 года ва Украіне. У кнізе сабранае ўсё тое, што пісалася на працягу 2020, 2021, 2022 гадоў датычна і Беларусі, і Украіны. Гэта не адмысловы праект, што сеў, падумаў, напісаў... Гэта, хутчэй, рэтраспектыўнае занатаванне таго, што адбывалася.

Тое самае тычыцца фотаздымкаў. У мяне ёсць два цудоўныя суаўтары – гэта віцебскі фатограф Алесь Пілецкі (не блытаць з журналістам Алесем Пілецкім). Ён шмат здымаў у 2020 годзе, усе віцебскія падзеі – у асноўным ягоныя фотаздымкі. Я падкрэслю, што ўсе гэтыя фотаздымкі вядомыя і ўжо публікаваліся.

А ўкраінская частка – гэта Станіслаў Крупаж, проста фанатычны чэшскі вайсковы журналіст, мы пазнаёміліся з ім напярэдадні вайны. Літаральна зімой 2022 года ён прыходзіў з журналісткай нямецкага выдання Die Zeit, мы з ім разгаварыліся... Ён не вылазіць з Данбаса і пагадзіўся падзяліцца сваімі здымкамі для гэтай кнігі.

І самае важнае ў гэты складаны час – усе сродкі ад продажу кнігі пойдуць на такую ініцыятыву як рэабілітацыйны цэнтр “Ланка” (“Звяно”). Гэта грамадзянскі гуманітарны праект даволі вядомай беларускай актывісткі і праваабаронцы Тацяны Гацуры-Яворскай па аднаўленні псіхічнага і фізічнага здароўя, рэадаптацыі ды сацыялізацыі ва Украіне.

Калі мы выпускаем кнігу пра Беларусь і Украіну, то падтрымка гуманітарнага праекта, створанага беларускай ва Украіне – гэта самае лепшае месца, куды мы можам прымяніць сродкі ад продажу кнігі, пералічыўшы іх туды. І калі чалавек купіць кнігу, грошы цалкам будуць пераразаваныя на падтрымку гэтага цэнтра.

Дарэчы, каму мала кніжкі і хочацца падтрымаць “Звяно” – можна данаціць ім наўпрост.

**– Чаму дапамога менавіта “Звяну”? Чым яны вам блізкія?**

– Ёсць супольнасць людзей, якія звязаныя з Украінай ці жывуць ва Украіне, і актыўныя людзі ўсе адны з адным звязаныя і адно аднаго ведаюць. Таццяну Гацуру я пабачыў жыўцом, яшчэ калі мы ехалі з Мінска ў Гомель на пахаванне Міхаіла Жызнеўскага, які загінуў падчас Рэвалюцыі Годнасці на Майдане ў Кіеве. З Таццянай мы знаёмыя ўжо нямала гадоў, і гэтая ідэя была проста натуральнай. Калі кніга сфакусаваная на Беларусі і Украіне, то скіраваць грошы на такі беларуска-ўкраінскі праект... Гэта такая “народная дыпламатыя”, на сёння такіх ініцыятыў беларусаў ва Украіне не так багата, таму варыянтаў, каму можна дапамагчы, амаль і не было.

Я звязаўся з Таняй, кажу: “Таня, ёсць такая ідэя, мы гатовыя прадаць кніжку і ўсе грошы аддаць на ваш цэнтр”. Яна кажа: “Так, было б супер, буду ўдзячная”, тым больш, што гэты цэнтр цяпер запускаецца. То-бок гэта не было нейкімі складанымі перамовамі.

**– Тым не менш, нягледзячы на “народную дыпламатыю”, вас надоечы не ўпусцілі ва Украіну...**

– Так, сапраўды, на баку дабра таксама бывае бардак. Гэта, канечне, не вельмі прыемна, калі вы рухаецеся з кропкі “А” ў кропку “Б”, але туды не патрапляеце. Але я не азлабляюся на ўкраінцаў, разумеючы фон. Так, гэта пэўная праблема для мяне асабіста, але невялікая праблема ў сітуацыі, калі людзі гінуць на фронце ва Украіне, альбо калі людзі атрымліваюць макабрычныя тэрміны ў Беларусі.

Калі больш канкрэтна: ёсць вельмі простая праблема для беларусаў, у якіх ёсць від на жыхарства ва Украіне, яго дзеянне падоўжанае ўказам Кабміна Украіны, але кожны раз на ўездзе ты павінен паказваць нейкія, на думку афіцэра, “дастатковыя” прычыны для ўезду. Пасля гэтага выпадку працуюць адвакаты, але адзінае, чаго б мы хацелі, – гэта выпрацаваць зразумелы і празрысты спіс таго, што ёсць дастатковымі падставамі для беларусаў, каб уязджаць ва Украіну.

Я прашу ўсіх не разганяць, як кажуць ва Украіне, “зраду”, бо мы на сваёй скуры ведаем, як несправядліва бывае рабіць нейкія абагульненні, як у наш бок, беларускі, так і ў бок Украіны. Мне, канечне, непрыемны канкрэтны выпадак, але я магу зразумець складанасць сітуацыі. Гэта не найгоршая з тых праблем, якія зараз у нашым рэгіёне існуюць.

**– Вернемся да кнігі. Дзе яе можна набыць? Які тыраж?**

– Кнігу можна набыць на сайце выдавецтва – гэта лонданскае выдавецтва “Скарына”. Яе можна будзе атрымаць па пошце ці забраць асабіста на прэзентацыях, якія адбудуцца ў Варшаве 9 ліпеня, і яшчэ ў Вільні і Празе таксама недзе ў той час.

Мы агітуем людзей прыходзіць на прэзентацыі, таму што кніжка – важкая, у цвёрдай вокладцы, таму дастаўка поштай будзе крыху дарагая. Цвёрдая вокладка і дыхтоўнае аздабленне таму, што мне важна было зафіксаваць яе ў такім камемаратыўным ключы, найперш для сябе, і, спадзяюся, і для чытача. Там шмат фота, таму па вазе яна досыць цяжкая. І таму мы ўсіх заклікаем эканоміць і прыходзіць на прэзентацыі.

На папярэдні продаж мы максімальна знізілі цану і робім яго, каб зразумець, ці будзе кніга запатрабаваная. Папярэдні тыраж “беларускі” – усяго 350 экзэмпляраў, але калі кніга будзе карыстацца папулярнасцю, мы дадрукуем наклад яшчэ. Калі будзе попыт, то мы адразу дамо замову ў друкарню – уласна, для гэтага мы і робім і папярэдні тыраж, і перадзамову цягам двух тыдняў, арыенціровачна да 5 чэрвеня.

І яшчэ раз падкрэслю, што ўсё, што будзе на гэтым зароблена, пойдзе на “Звяно” – на “Ланку”, ва Украіну.

**– Калі кніга цяжкая, ці не думалі вы выпусціць электронны варыянт?**

– Добрае пытанне. Пакуль не думалі, бо засяродзіліся на папяровай кнізе, але абавязкова над гэтым падумаем.

***

Алесь Плотка – літаратар і музыка, вакаліст гуртоў Sož і Baisan&Yasinski, аўтар трох кніг паэзіі і кніг-перакладаў на беларускую Юрка Іздрыка, Івана Сэмесюка і Аляксандра Чарнухі.

Алесь Пілецкі – вядомы віцебскі фатограф і журналіст, публікаваўся ў буйных беларускіх медыях.

Станіслаў Крупаж (Stanislav Krupař) – чэскі вайсковы журналіст, вядомы па супрацы з Die Zeit, Stern, Der Spiegel, GEO, The New York Times, Time, NZZ, Reportér magazín і іншымі.

Рэабілітацыйны Цэнтр “Ланка” – грамадзянскі гуманітарны праект па аднаўленні псіхічнага і фізічнага здароўя, рэадаптацыі ды сацыялізацыі ва Украіне.

Аліна Бялова, для budzma.by

МІЖНАРОДНЫ САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

мова

# "НЕ ЗАГАСНУЦЬ ЗОРКІ Ў НЕБЕ": ТВОРЦЫ З УСЯГО СВЕТУ ЗЛАДЗІЛІ ФЛЭШ-МОБ У ПАДТРЫМКУ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

90 гадоў – гэта шмат ці мала? У межах чалавечага лёсу – адно доўгае жыццё. А ў рамках арганізацыі? Магчыма, не так і шмат, але не ў выпадку, калі арганізацыя праходзіць праз жорсткія рэпрэсіі, а многія яе сябры былі фізічна знішчаны. Гаворка пра Саюз беларускіх пісьменнікаў, які актыўна дзейнічаў з 1930-х і да 2020-х гадоў. Саюз быў ліквідаваны рашэннем суда ў кастрычніку 2021 года.

Арганізацыя ліквідаваная, але беларускае слова па-ранейшаму працягвае жыць, і сёння ў падтрымку беларускіх пісьменнікаў творцы з усяго свету зладзілі адмысловы флэш-моб і стварылі паэтычную відэахрэстаматыю "Не загаснуць зоркі ў небе".

Флэш-моб стартуе ў Нью-Ёрку. У першым відэа верш Янкі Купалы "Прарок" чытае Сяржук Сокалаў-Воюш.

### З чаго ўсё пачыналася

90 год таму ў Мінску пачала ствараецца новая арганізацыя: Саюз пісьменнікаў БССР. Мінулыя суполкі былі знесеныя бульдозерам прапагандысцкай машыны, разнастайнасць не віталася, патрабавалася толькі адна афіцыйная лінія літаратуры. Пісьменнікі, якія пазбеглі рэпрэсій пачатку 1930-х, згуртаваліся для выжывання ў страшныя часы.

### Чорная ноч беларускай літаратуры

На жаль, пасля ўрачыстага І пісьменніцкага з'езду ў чэрвені 1934 года рэпрэсіі не спыніліся і дасягнулі свайго апагею ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, калі беларуская літаратура страціла многіх найлепшых творцаў, нядаўніх заснавальнікаў Саюза пісьменнікаў: былі расстраляныя Алесь Дудар, Платон Галавач, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Мойшэ Кульбак, Міхась Чарот… Сотні трапілі ў турмы і зніклі ў лагерах ГУЛАГу.

Да пачатку ІІ сусветнай вайны ў Саюзе пісьменнікаў заставалася ўсяго некалькі дзясяткаў чалавек, якія цудам пазбеглі арышту. Але арганізацыя працягвала працаваць.

### Ад росквіту да ліквідацыі

Пасля вайны арганізацыя працягвала лабіраваць інтарэсы пісьменніцкай супольнасці. Дзякуючы спыненню масавага тэрору, беларускай літаратуры ўдалося акрыяць. З'явіліся новыя выдатныя імёны, раз за разам выходзілі яркія кнігі прозы і паэзіі, крытыкі, перакладаў і драматургіі. Да апошніх дзён, пакуль гэта было магчыма, Саюз беларускіх пісьменнікаў імкнуўся падтрымаць усё добрае, што працавала на карысць нашай мовы і літаратуры, падкрэсліць найважнейшую ролю кнігі і чытання для развіцця грамадства. Тым не менш, 1 кастрычніка 2021 года Вярхоўны Суд РБ прыняў рашэнне аб ліквідацыі СБП.

### Беларускае слова жыве

Міжнародны саюз беларускіх пісьменнікаў прапануе прыгадаць арганізацыю, якая не проста існавала, а актыўна дзейнічала з 1930-х і да 2020-х гадоў. Напярэдадні 90-гадовага юбілею СБП творцы з усяго свету прачыталі ўлюбёныя вершы паэтаў розных часоў, якія склалі паэтычную хрэстаматыю "Не загаснуць зоркі ў небе".

У флэш-мобе бяруць удзел Андрэй Хадановіч, Наста Кудасава, Зміцер Вайцюшкевіч, Анхела Эспіноса-Руіс, Кацярына Ваданосава, Сяргей Дубавец, Уладзімір Арлоў, Дзмітрый Плакс ды іншыя творцы.

Відэаролікі флэш-мобу будуць выходзіць на ютуб-канале Міжнароднага саюза беларускіх пісьменнікаў двойчы на тыдзень. Падпішыцеся на канал, каб не прапусціць. Падтрымайце беларускае слова праглядамі і лайкамі.

Чытайце беларускую кнігу, слухайце беларускае слова, якое выжывае і дзейнічае ва ўсе, нават самыя неспрыяльныя часы.

**Міжнародны саюз беларускіх пісьменнікаў, Літва**

## Беларускі каляндар памятных дат на чэрвень 2023 года

**1 чэрвеня**
- 130 гадоў таму, у 1893-м, памёр Аляксандр Валіцкі, выдавец, спявак.

**4 чэрвеня**
- 75 гадоў таму, у 1948-м, у Канстанцы пачаўся Першы сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы на эміграцыі, на якім яна была адноўленая.

**5 чэрвеня**
- 85 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Юрка Лістапад, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання.
- 20 гадоў таму, у 2003-м, памёр Уладзімір Емяльянчык, гісторык, паэт.

**8 чэрвеня**
- 65 гадоў таму, у 1958-м, у «Беластоку» заснавана беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа».

**9 чэрвеня**
- 295 гадоў таму, у 1728-м, нарадзіўся Казімір Рагоўскі, філосаф. Памёр у 1810-м.
- 160 гадоў таму, у 1863-м, павешаны Баляслаў Калышка, адзін з кіраўнікоў паўстання.

**10 чэрвеня**
- 100 гадоў таму, у 1923-м, памёр Міхал Федароўскі, этнограф, археолаг.

**11 чэрвеня**
- 45 гадоў таму, у 1978-м, памёр Янка Тарасевіч, грэка-каталіцкі святар, тэолаг, рэлігійны дзеяч эміграцыі ў Канадзе і ЗША.

**14 чэрвеня**
- 120 гадоў таму, у 1903-м, памёр Ян Карловіч, лінгвіст, этнограф, музыказнавец.

**16 чэрвеня**
- 95 гадоў таму, у 1928-м, памёр Эдвард Вайніловіч, палітычны дзеяч.

**17 чэрвеня**
- 175 гадоў таму, у 1848-м, памёр Максімільян Рыла, філосаф, археолаг, каталіцкі місіянер на Блізкім Усходзе і ў Афрыцы.
- 85 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Аркадзь Смоліч, дзеяч БНР, вучоны ў галіне эканомікі і сельскай гаспадаркі, географ.
- 65 гадоў таму, у 1958-м, памёр Уладзімір Пігулеўскі, пісьменнік.

**22 чэрвеня**
- 140 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Аляксандр Цвікевіч, палітычны дзеяч, гісторык, філосаф. Расстраляны ў 1937-м.

**29 чэрвеня**
- 110 гадоў таму, у 1913-м, нарадзіўся Чеслаў Будзька, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне. Памёр у 1985-м.

30 чэрвеня
- 30 гадоў таму, у 1993-м, памёр Міхась Мельнікаў, краязнавец.

**Беларусы ў свеце**
№ 5 (252), травень 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com